Год II. Ліпень-Жнівень 1933 г. № 7-8 (19-20).

# ДАЗЛУЧЭНЬНЯ!




БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопіс.**

Цана асобнага нумару 20 гр.

Падпіска на паўгода. . . . . 1 зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!

Беларуская рэлігійная часопіс.

Альбэртын. Ліпень-Жнівень 1933 г. № 7-8 (19-20).

## Усьпеньне Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

*(15 жніўня).*

### *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

*ПАВОДЛЕ СЬВ ЛУКІ РАЗЬДЗЕЛ 10,38.42; ЗАЧАЛА 54.*

*38. Таго часу прышоў Ісус у адно сяло: а адна жанчына, на імя Марта, прыняла Яго ў дом свой;*
*39 І ў яе была сястра, на імя Марыя, катораая, сеўшы ля ног Ісусавых, слухала слова Яго.*
*40 Марта-ж клапацілася аб вялікай паслузе і, стаўшы, сказала: Госпадзе, ці-ж Ты ня дбаеш, што мая сястра мяне адну пакінула паслугоўваць? Дык скажы ёй, каб мне памагла.*
*41. А Ісус адказаў ёй: Марта, Марта, турбуешся і клапоцішся аб многае.*
*42. А адно толькі патрэбна. Марыя-ж выбрала лепшую часьць, якая не аднімецца ад яе.*

---

*„Марыя-ж выбрала лепшую часьць, якая не аднімецца ад яе.“*
*(Лук. 10,42)*

Вышэйпрыведзеныя словы Ісус Хрыстос сказаў да Сьв. Марыі Магдалены, каторая сядзела ля ног Збаўцы і слухала Яго навукі. Гэтыя-ж словы справядліва чытае сьвятая

Царква на ўрачыстасьці ў чэсьць Найсьвяцейшае Дзевы Марыі, бо яна запраўды выбрала **„лепшую часьць, якая не аднімецца ад яе“** (Лук. 10,42).

Мы ведаем, каго яна выбрала. Выбрала ўсім сваім сэрцам і ўсёю сваёю душою самога Госпада Ісуса Хрыста і аддала Яму ўсё сваё жыцьцё. У нагароду для сваей Маткі Збаўца зрабіў для яе вялікі цуд: пасьля сьмерці ўзяў Найсьвяцейшую Дзеву з душой і целам да сябе, да неба. Гэта запраўды **„лепшая часьць“**, бо Сам Госпад Бог са сваёю Маткаю будзе назаўсёды, праз усю вечнасьць, ніякая сіла не адыме ад Найсьвяцейшае Дзевы Марыі яе Сына Госпада Нашага Ісуса Хрыста.

Сяньня мы сьвяткуем урачыстасьць Усьпеньня Багародзіцы. Ведаем з Сьв. Паданьня, што пасьля ўнебаўступленьня свайго Сына, Маці Божая жыла са Сьв. Іоанам у Эфэсе 15 гадоў. Асабліваю задачаю Найсьвяцейшае Дзевы было апекавацца сьвятою царквою, што пачынала толькі існаваць. Любілі апосталы і вучні Ісусавы Багародзіцу ўсім сэрцам і да яе зьвярталіся за падмогаю і парадаю.

Хаця была Найсьвяцейшая Дзева на зямлі, але душа яе заўсёды была ў небе, там, дзе прабываў Сын яе ўмілаваны. Яна мела заўсёды адно жаданьне, каб хутчэй злучыцца са сваім Сынам Адзіным, каторага любіла ўсім сваім сэрцам.

Звычайна сьмерць папераджаець хвароба, цярпеньне і вельмі цяжкае кананьне. Зусім інакш разлучылася з зямлёю Багародзіца Дзева: яна спакойна заснула, не хварэючы і не адчуваючы страшнага кананьня.

Сьв. Іоан Дамаскін апісвае паховіны Найсьвяцейшае Дзевы і ўспамінае аб тым, як пасьля некалькіх дзён гроб быў адчынены на просьбу Сьв. Тамаша Апостала. Дзіўная рэч: не знайшлі там цела, толькі цудоўныя краскі. Бачачы гэта дзіўнае зьявішча, кожны з апосталаў быў перакананы, што Госпад Бог Ісус Хрыстос зрабіў для свае Маці вынятак з агульнага права прыроды, не пазволіў, каб гэта Найсьвяцейшае цела, з якога і Сам узяў сваю чалавечую натуру, магло згнісьці, пераняміцца ў зямлю, але ўзяў яго да неба.

І не магло быць інакш: Хрыстос ня мог пазволіць, каб найсьвяцейшае цела яго Маткі зьнішчылася, як усіх іншых людзей.

Сьмерць і ўсе яе пасьледзтвы—гэта скутак граху першароднага, у якім усе людзі родзяцца на сьвет. Але догматам веры нашае ёсьць, што для Сваей Маці Госпад Бог зрабіў з гэтага агульнага права вынятак: Найсьвяцейшая

Дзева прыйшла на сьвет бяз плямы першароднага граху, яна была бязгрэшна зачатая. З гэтае праўды выплывае і пацьверджаньне другой: калі Багародзіца Дзева была свабодная ад граху першароднага, так сама павінна быць свабоднаю і ад пасьледзтваў граху.

Праўда, што ўсе людзі па сьмерці хутка гніюць, але Госпад Бог цела некаторых сваіх слугаў сьвятых захаваў ад зьнішчэньня.

Напрыклад, багаслаўлёны мучанік Андрэй Баболя ўжо больш як 300 гадоў памёр, аднак цела яго па сяньняшні дзень захавалася. У Полацку ў 1923 годзе бальшавікі ў прысутнасьці цэлае свае камісіі аглядалі мошчы сьвятога Андрэя, не знайшлі ніякага ашуканства (а думалі што знай-дуць) і ў сваім пратаколе зазначылі, што цела дзіўным спосабам захавалася.

Ведаем таксама са Сьвятога Пісаньня, што прарокаў Ільлю і Эноха Госпад Бог забраў жывымі да неба. Калі цела некаторых сьвятых Усемагутны Бог захаваў ад зьнішчэньня і нават некаторых забраў жывымі да неба, тым больш можна спадзявацца і быць перакананым, што зрабіў гэта самае для Свае Маткі, Каторую справядліва сьвятая царква выхваляе як: „Честнѣйшую херувимъ и славнѣйшую безъ сравненія серафимъ“...

Вывышаная над усе стварэньні Прачыстая Багародзіца, як Царыца неба і зямлі, цяпер пануе разам са сваім Сынам Ісусам Хрыстом.

Мы, хрысьціяне, любім Найсьвяцейшую Дзеву Марыю, як сваю найлепшую Матку, і вельмі цешымся з Яе вывышэньня, з Яе шчасьця.

Яшчэ і дзеля таго мы павінны цешыцца, што Царыца Нябесная, Маці Божая, ёсьць таксама запраўднаю нашаю маткаю.

Кожны чалавек на зямлі мае ў сваім жыцьці прыродным матку і айца. Хрысьціянін, апрача жыцьця прыроднага, мае ў сабе яшчэ іншае жыцьцё, надпрыроднае, Божае, жыцьцё ласкі, якое даецца яму праз хрост. Як у жыцьці прыродным мы маем айца і маці, так сама і ў жыцьці надпрыродным мы, хрысьціяне, маем айца і матку, айцом нашым ёсьць сам Бог, а маткаю — Найсьвяцейшая Дзева Марыя. Яна нас як-бы зрадзіла ў цярпеньнях пад крыжам свайго Сына і атрымала ў асобе Сьвятога Іоана ўвесь чалавечы род у сваю матчыную апеку: «Жено, се сынъ твой.» (Іоан. 19,26).

Ісус Хрыстос ёсьць адзіным Сынам Прачыстае Багародзіцы, сынам натуральным, а мы ўсе зьяўляемся дзяцьмі прыбранымі.

Мы, хрысьціяне, адроджаныя да надпрыроднага жыцьця ў Ісусе Хрысьце праз Духа Сьвятога, а Найсьвяцейшая Дзева ёсьць Маткай Збаўцы, а праз Хрыста і маткай нашай.

Ведаем, як кожная маці любіць сваё дзіця, як яго даглядае, як жадае для яго шчасьця. Бяспрымерна больш любіць нас за усіх матак наша Маці Нябесная.

Як-жа мы павінны цешыцца, што мы маем так усемагутную і вельмі любячую нас Маці. Яна жадае для нас шчасьця і хоча нас абараніць ад усіх нашых ворагаў душы і цела.

Нават грэшніка Яна не адкіне, калі да Яе зьвярнуцца, просячы помачы, апекі. Шчасьлівы той, хто не выракаецца свае Маткі Нябеснай, Яна яго паратуе ад зла і давядзе да шчасьця вечнага. Добра гэта разумеюць хрысьціяне, да Яе ўцякаюць у сваіх патрэбах. Хто ня вырачацца Маткі Нябеснай і будзе да яе заўсёды маліцца, дык Яна не дапусьціць, каб гэтакі чалавек згінуў навекі.

Адна матка, паміраючы, пакідала свайго сына, каторага вельмі любіла. Шкада ёй было юнака, баялася, каб без апекі маткі не распусьціўся і ня згінуў навекі.

Прадчуваючы, што прыбліжаецца для яе апошняя гадзіна, пакпікала свайго сына да сябе і кажа вельмі слабым голасам: „Мой дарагі сынок, ты ведаеш, як я цябе люблю і жадню, каб ты быў шчасьлівы. Вось бачыш, я паміраю. Перад сьмерцяю хачу цябе прасіць, каб ты мне прырок, што пакуль жыць будзеш, дык кожны дзень, кладучыся спаць, будзеш адмаўляць хаця толькі кароценькую малітву да Найсьвяцейшай Дзевы Марыі: „Богородице Дѣво." Ня мог любячы сын адмовіць у просьбе паміраўшай маткі і даў прырачэньне, што будзе заўсёды чытаць гэту малітву. І сваё абяцаньне датрымаў. На дарозе жыцьцёвай знайшліся злыя таварышы , якія пацягнулі яго да распуснага жыцьця. Часта праводзіў ночы на гульні і распусьце, але, вяртаючыся дамоў, позна ўночы кладучыся спаць, заўсёды помніў аб прырачэньні, дадзеным паміраўшай матцы і адгаварваў — малітву „Богородице Дѣво"... Аднаго разу, адгаварыўшы, як заўсёды, гэту малітву, задумаўся, прыпомніў сваю добрую матку, яе навукі і прадасьцярогі; гэтае разважаньне зрабіла на яго моцнае ўражаньне, пастанавіў перамяніць сваё жыцьцё, паправіцца. На другі дзень пайшоў да спове дзі, прыняў Св. Прычасьце і пачаў зусім іншае, новае жыцьцё.

І мы таксама павінны заўсёды маліцца да Багародзіцы Дзевы. Якое-ж для нас вялікае шчасьце, што маем гэткую ўсемагутную і любячую нас Маці, каторая ёсьць таксама

Маткаю Божаю, Царыцаю неба і зямлі. Можна да Яе зьвяртацца ў сваіх патрэбах, а Яна напэўна нас выслухае. На дарозе нашага жыцьця столькі небясьлекаў, гэтак лёгка можна зыйсьці з праўдзівай дарогі і згінуць навекі.

Каб ня згінуць, мы мусім уцякаць пад крыльля матчынай апекі Найсьвяцейшае Багародзіцы, паўтараючы з вялікай надзеяй словы малітвы: „Спаси отъ бѣдъ рабы Твоя, Богородице, яко вси по Бозѣ къ Тебѣ прибѣгаемъ, яко нерушимѣй стѣнѣ и предстательству.“ Амін.

*а. Антоні.*

---

# Вялікі над'звычайны юбілейны 1933-34 год.

Цяперашні над'звычайны юбілей*) выкліканы 19 векавымі ўгодкамі тых падзеяў, рэзультатам якіх было нашае Адкупленьне, заслужанае Мукамі і Крыжовай Сьмерцяй Богачалавека — прычына, асабліва важная ў часы, калі свой не пазнае свайго і чалавецтва як быццам хоча вярнуцца да пячурных часоў, калі прабіваньне чэрапа свайго бліжняга ды яшчэ каменнаю сякераю было параўнальна мягкім дзеяньнем.

І запраўды, хопіць кінуць уважным вокам на наш кругавід, каб заўважыць, што неспакой пануе ўсюды. Яго бачым у тых, хто загадвае, і ў тых, хто павінен быць паслухмяным. Але неспакой ахапляе і людзей добрае волі, якія бесперастанку натыкаюцца на „бліжніх“, якія губляюць, або ўжо зусім згубілі здаровае пачуцьцё справядлівасьці і жаданьне жыць чэсна, а, наадварот, шукаюць у хлусьлівых тэорыях таго шчасьця, якога яны даць ня могуць, хоць

---

*) Юбілей (слова мусі стара-жыдоўскага паходжаньня) — гэта пэрыяд часу, у які верныя асаблівым чынам, выпаўніўшы варункі, загаданыя Першасьвяшчэньнікам, атрымліваюць поўнае адпушчэньне часовых караў за грахі ўсяго свайго жыцьця. Апрача звычайных юбілеяў, што бываюць кожныя 25 гадоў, ёсьць яшчэ і над'звычайныя, абвешчваныя Папамі па розных важных прычынах.

Рэд.

і дакляруюць, робячыся падобнымі да міражу, што ўцякае і зьнікае ў мамэнт, калі яго дасягненьне здавалася ўжо гэткім блізкім.

Да гэтых і бяз таго хвараблівых зьявішчаў далучаюцца яшчэ і пробы цяперашніх часоў, і канца ім як быццам яшчэ і ня відно: гаспадарчая разруха, надыйшоўшая ўсюды, цягне за сабою безрабоцьце, ад якога церпяць перш за ўсё тыя чэсныя працаўнікі, якія чакаюць неабходнага хлеба, як нагароды за суменную працу, а не як здабычы, вырванае ў агульным перавароце і рабунку.

А на небасхіле зьявіліся яшчэ больш грозныя прадвесьнікі: зьбліжаецца віхар бязбожжа, які, праляцеўшы над чалавецтвам, будзе мець сваім рэзультатам толькі хаос бязладзьдзя і муту неморальнасьці.

Род чалавечы павінен быць папярэджаны аб руйнацкім гурагане, які можа праглынуць нашу культуру. Вось чаму абвешчаньне цаперашняга Юбілею Папаю Піусам XI мае ўсечалавечае значэньне. Покліч Рымскага і Сусьветнага Першасьвяшчэньніка не замоўкне з канцом юбілейнага году: яго водгалас будзе гучэць у далёкія вякі будучыні. Напамінаючы нам аб збаўчых падзеях, меўшых месца 1900 гадоў назад, г. зн. аб устанаўленьні Сьвятое Эўхарыстыі, аб муках, Крыжовай Сьмерці і Уваскрасеньні Хрыста, быўшых вызавам старому сьвету, а таксама аб насланьні Духа Сьвятога, які ажыўляе і змацняе Сусьветнасьць Царквы пад кіраўніцтвам Першаапостала і яго наступнікаў, Піус XI увяшчае ня толькі верных яму дзяцей, але і агулам усё чалавецтва. Ён гаворыць аб узаемнай любові, якая павінна запанаваць замест міжнароднай ненавісьці. Людзі вельмі здольныя пераацэньваць матар'яльныя бакі сучаснае разрухі і забываюць яе моральныя хібы. Мы не павінны ўпушчаць з віду, што малітва Гасподняя, вучачы нас прасіць аб неабходным хлебе і дараваньні даўгоў, мае абавязальныя словы: „як і мы даруем даўжнікам нашым". І Сьвятая Царква, сільная пэўнасьцю ў сваім прызваньні Міратворыцы, усьведамляючы аўторытэт свайго настаўніцтва, ня можа сумлявацца ў праўдзівасьці мераў, загадваных яе Галавою. Дакляруючы дараваньне і адпушчэньне сваім оўцам, Сусьветны Пастыр пасылае сваё „мірстваваньне" ўсяму роду чалавечаму.

Вось на чым спачывае гістарычнае значэньне таго літургічнага абраду, г. зн. адчыненьня Сьвятых Дзьвераў, які споўніў Папа Піус XI у вялізарнейшай царкве сьвету, у Ватыканскай базыліцы, дзе да таго-ж перахоўваюцца сьвятыя астанкі Першаапостала і першага Галавы Сусьветнасьці, які з „выбранае Царквы ў Вавілоне" пасылаў „мір усім у Хрысьце Ісусе" (І. 13, 14).

З радасьцю мы можам ужо цяпер запэўніць дарагіх братоў і сёстраў, чытачоў нашае часопісі, што заклік Сьвятога Айца, зроблены, як мы ведаем, 6 месяцаў назад (6 студня 1933 г.), гучным рэхам адгукнуўся ўва ўсіх кутках сьвету, — зусюль прыходзяць запэўненьні, што голас Папы пачуты з удзячнасьцю і гатовасьцю ісьці за ім. У Рым ужо зыйшліся першыя пілігрымкі, а колькі іх рыхтуецца да сьвятой падарожы!

Але хай будуць спакойнымі і тыя, каму лёс ня дасьць магчымасьці адбыць у Рыме свой маліцьвенны і пакаянны подзьвіг. Дзеці Сусьветнасьці знайдуць усюды даволі „садовых крыніцаў — калодзежаў жывых водаў і ручаёў з Лівану“ (П.П. 4. 15), дзе ім будзе дана здарэньне змыць прах грахоўны і падмацавацца да далейшага вандраваньня ў гэтай юдолі плачу. Дары поўнага адпушчэньня будуць суджаны і ім, калі на месцах, па загаду япіскапаў, узрасьце маліцьвенны запал, падбодраны пропаведзямі пастыраў, місіямі і духоўнымі практыкаваньнямі. Вялікае будзе поле і для больш энэргічнага разьвіцьця дзейнасьці Каталіцкае Акцыі, гэтак дарагое Вярхоўнаму Пастыру і ў сутнасьці сваёй зьяўляючайся душою ўсякага роду апостальскае працы. Сьвяты Год — гэта год маліцьвеннага і пакаяннага подзьвігу, ён кліча нас на сьвятую бітву як проці беспасярэдня завушаючых яго твар бязбожнікаў, так і ўкрытых недругаў — навушнікаў з лягеру модэрністых рознага роду.

І калі вялікія лікам будуць аддзелы авангарду, якія з клічам Канстантына: „гэтым пераможаш“ зьбяруцца вакол пераможнага Крыжа, пастаўленага Папамі на вартавым узгорку Вечнага Гораду, дык хай дзейным будзе і тыл, каб гісторыя не паўтарала з намі, дзяцьмі Сусьветнасьці, напіканьняў, якія яна справядліва рабіла грамадзянам, што заставаліся на бацькаўшчыне і аддаваліся бясьпечнасьці ў той час, калі беспасярэднія ўчасьнікі апошняе сусьветнае вайны гінулі мільёнамі на палёх бітваў.

Падобна да здарэньня з Майсеем, гэта Госпад натхніў Сусьветнага Айца; апошняму Правідзеньне дало крыж, сказаўшы пры гэтым: „Я буду з табою, і вось табе знак, што я паслаў цябе“ (Ісх. 3, 12).

* * *

Цэрамонія пачатку Юбілейнага году звычайна завецца, паводле галоўнага свайго мамэнту, „адчыненьнем Сьвятых Дзьвераў“, г. зн. уваходу ў царкву, які заставаўся замураваным з канца папярэдняга Юбілею.

Ужо другі раз за час свайго Першасьвяшчэньніцтва Папа Піус XI адчыняе Сьвятыя Дзьверы (першы раз у Юбілей 1925 г.) і ён-жа трэці раз у гісторыі Царквы дарыць хрысьціянскаму сьвету Над‘звычайны Юбілей. У сэрыі сьвятых Гадоў, пачатай слаўным Юбілеем Боніфата VIII (1300), цяперашні пэрыяд Вялікага Адпушчэньня зьяўляецца 24-ым, але яму суджана быць ад‘значаным у гісторыі ня столькі гэтаю парадкаваю цыфраю, колькі вынятковымі акалічнасьцямі, яго падказаўшымі. Ён першы раз урачыста сьвяткуе канец веку (для нас дзевятнаццатага) з часу тых заключальных падзеяў, якія ёсьць залогам нашага Адкупленьня, споўненага памёршым на крыжы і ўваскросшым з памёршых Госпадам нашым Ісусам Хрыстом: ажыўленьне нашае памяці аб гэтых падзеях і прыношанае ёю пабуджэньне да асьвячэньня душаў павялічвае нашу надзею і веру, гэтак патрэбную ў перамаганьні труднасьцяў цяперашняга мамэнту.

Узяўшы ўсё гэта пад увагу, Папа Піус XI пажадаў прыдаць урачыстасьці адкрыцьця Юбілею найбольшы блеск. І трэба сказаць, што хрысьціянскі сьвет якнайлепш адказаў на пачын Першасьвяшчэньніка. Каля пяцьдзесяцёх тысячаў маліўшыхся было 1-га красавіна ў Саборы Сьв. Пётры на чыне адчыненьня Сьвятых Дзьвераў. Напомнім, што прысутныя пры гэтым сьвяце і браўшыя адпушчальнае багаслаўленьне Папы ўжо гэтым удастойваюцца ласкавых дароў Юбілею, а дзеля гэтага яны не абавязаны да адведаньня трох іншых Юбілейных базылікаў. Але ня гэты прывілей, ня гэтае скарочаньне пакаянных подзьвігаў, прадпісваных царкоўнымі правіламі, былі прычынаю гэткага зграмаджаньня народу ў царкве Першаапостала, — прысутныя былі натхнёныя магчымасьцю пачаць Сьв. Год разам з Сусьветным Айцом і сваімі вачыма бачыць на твары яго радасьць ад гэткае масы дзяцей, прыбыўшых да яго па першым закліку. У натоўпе, літаральна перапоўніўшым вялізарную царкву, відаць было ня толькі рымскі і італьянскі элемэнт, выдзяляліся і „першыя ластаўкі“, што зьляцеліся зусюль пад ласкавую страху вялізарнейшага ў сьвеце Божага дому.

Натаўп пачаў сходзіцца да пляцу сьв. Пётры ўжо раньняю раніцай, хоць і было вядома, што багаслужэньне ў саборы пачнецца не раней як а 11 гадзіне: жаданьне забясьпечыць сабе лепшае месца перамагло не асабліва прыемную пэрспэктыву чаканьня ў працягу некалькіх гадзін. Толькі некалькі сот выбранцаў маглі зьмясьціцца ў прытворы царквы, дзе адбываецца самая галоўная часьць урачыстасьці, г. зн. адчыненьне Сьв. Дзьвераў, усе іншыя, — а іх было да паўсотні тысячаў, — павінны былі стоўпіцца ў

караблёх базылікі, разьдзеленай адпаведнымі перагародамі, каб забясьпечыць Папскаму крэснаму ходу вольны прастор у часьці правага крыла царквы і ў яе сярэднім караблі.

Пакуль чалавечы прыліў захапляе сваёю масаю базыліку Першаапостала, у Ватыканскім палацы таксама відаць нязвычайны рух. Па розных яго палатах разьмяшчаецца духавенства, якое будзе браць удзел у паходзе Сьв. Айца. Прыхадзкія сьвяшчэньнікі Рыму, цэлыя грамады манахаў розных ордэнаў, прадстаўнікі духоўных школьных закладаў Вечнага Гораду разьмяшчаюцца па галерэях і салях, каб вытварыць дастойнае абрамаваньне працэсіі Першасьвяціцеля. Зьяжджаюцца кардыналы; да цэрамоніі зьверху фіялетавых расаў (колер посту ў Чатырыдзесятніцу) яны апранаюцца ў літургічныя мантыі і накладаюць белыя мітры. Сярод князёў Царквы выдзяляецца сваім высокім ростам і дабратою свайго твару Варшаўскі архіяпіскап кардынал Какоўскі. У адпаведных салях зьбіраюцца ў сваю чаргу япіскапы, — сярод іх мы з гарачым пачуцьцём ад'значаем і шчырага мучаніка за веру, япіскага Слоскана, які гэтак яшчэ нядаўна вырваўся з рук савецкіх вырадкаў. Твар яго яшчэ носіць сьляды бедаў, а на вачох выразна відаць сьлёзы, і мімаволі прыходзяць на думку словы Апостала: „успамінаючы аб сьлёзах тваіх, каб мне споўніцца радасьці, прыводзячы на памяць неліцамерную веру тваю“ (11, Тм. 1, 4, 5). І гэтыя япіскапы накладаюць белыя мітры і плашчы.

Каля 11 гадзіны ў салі Аблачэньняў зьяўляецца Папа з невялікаю групаю найбліжэйшых прыдворных асобаў і некалькіх гвардзейцаў. Яму падаюць рызы і залатую мітру. Пачынаецца Папскі паход: яго галава, зложаная з вышэйспомненага духавенства, ужо прышла ў рух, пачаўшыся ў аддаленых салях. Трэба зазначыць, што Піус XI скараціў даўжыню ўрачыстых Папскіх працэсіяў; інакш дык самы паход іх цягнуўся-б з гадзіну. Каля выхаду з салі Першасьвяшчэньніка сустрачае чырвоны бальдахін і беласьнежныя вееры з стравусавых пёраў, што надае нейкую ўсходнюю бліскучасьць усім вялікім Папскім урачыстасьцям.

Але ў апошніх усё гаворыць яркімі сымболямі аб вялікім сане Першасьвяшчэньніка і аб ня менш вялікай Яго адказнасьці перад Правідзеньнем. Як Збаўца перад уступленьнем на свой крэсна-сьмяротны шлях разьвітваўся з вучнямі на агульнай Вячэры любові і ўстанавіў на Ёй Сьвятое Таінства Эўхарыстыі, гэтак тут Піус XI пачынае Юбілейную ўрачыстасьць пакланеньнем Сьв. Даром, выстаўленым у Сыкстынскай капліцы; затым ён пачынае сьпеў прызыўнага гымну

да Сьвятога Духа (Veni Creator) і, пасьля новага пракланеньня перад Жываноснымі Тайнамі, ім-жа абкадзіленымі пахнючым фіміямам, прыступае да працэсіі.

* * *

Папскі Сыкстынскі хор далей пяе гымн, а Папа, выйшаўшы ў Каралеўскую салю, сядае на пераносны трон: ў левай руцэ ён трымае запаленую сьвечку, а правая часта паднімаецца ў багаслаўляльным жэсьце. Паход сходзіць паміж калённаў і аркаў раскошных сходаў Бэрніні і каля памятніка імпэратару Канстантыну, запраўды Роўнаапостальнаму, уваходзіць у прытвор царквы князя Апосталаў. Апрача Папскага сядалішча тут зроблена некалькі трыбунаў, запоўненых да межаў магчымасьці. У адпаведных месцах сядзяць: б. грэцкі кароль з прынцэсамі, ёсьць і Стэфанія Бэльгійская, удава па няшчасным эрцгэрцогу Рудольфе Аўстрыйскім, а цяпер княгіня Лёніай; у асобных месцах відаць сястру і іншых сваякоў Папы; сярод іншых выдатных асобаў выдзяляецца Лёнданскі лёрд-мэр, віцэ-прэзыдэнт Ісляндзкага парлямэнту (ён каталік!) і студэнт-кітаец, адбыўшы двухгадовы паход, каб убачыць Пётру ў асобе яго намесьніка, ласкавага Піуса XI.

У прытворы Папскі паход разьвіваецца ўва ўсёй сваёй пышнасьці. Слугі ў лібэрыях, прадстаўнікі манашаскіх ордэнаў у рознародных расах, прыдворныя асобы ў гарнастаевых мантыях, спаведнікі Сабору Сьв. Пётры з доўгімі трысьцінамі*), япіскапы і патрыархі, сярод якіх выдзяляецца некалькі ўсходніх япіскапаў, — усё гэта ў багатай пярэстасьці формаў і колераў складае дастойнае абкружэньне Папскае фігуры, што ўзвышаецца над морам галоваў. Пры зьяўленьні Першасьвяшчэньніка разьлягаецца гарманічная музыка сярэбраных трубаў. Папа сходзіць з пераноснага трону і паднімаецца да сядалішча, каб пачаць другую і самую галоўную часьць урачыстасьці, г. зн. адчыненьне Сьв. Дзьвераў.

* * *

Гэтая часьць Юбілейнае цэрамоні даволі кароткая. Хор канчае сьпеў. Першасьвяшчэньнік, зыйшоўшы з трону, падходзіць да замураваных яшчэ Сьв. Дзьвераў і, атрымаў-

---

Імі яны датыкаюцца да галавы таго, хто каецца на знак адпушчэньня лёгкіх грахоў.

А. С.

шы з рук Галоўнага Спаведніка залаты малаток, — падарак Сусьветнага Япіскапату на Юбілей 1925 г., — наносіць ім у Сьв. Дзьверы тры растучыя ў сіле ўдары, вымаўляючы пры гэтым словы Сьв. Пісьма з адпаведнымі адказамі хору: „Адчынеце мне вароты праўды, — увайду ў іх, праслаўлю Госпада (Пс. 117, 19). Увайду ў дом Твой, — пакланюся сьвятому храму Твайму (5, 8). Адчынеце вароты, бо з намі Бог, — які завяршыў моц Ізраіля“ (Юд.).

Пасьля трэцяга ўдару вялікі чатырохкутнік з цэглаў, складаўшы замуроўку дзьвернага атвору, пачынае схіляцца ў сярэдзіну царквы; з трэскатам рвецца палатно, прыкрываўшае шчыліны ад прарэзаў, якія загадзя адлучылі цэглянную кладку ад мармуровых налічнікаў дзьвераў, але цэглы не распадаюцца, таму што да задняга боку замуроўкі прыложана плашчынка возіка на нізкіх колах; гэты вось возік і спушчаецца на блёках да падлогі базылікі, у глыбіні якое ён хутка і зьнікае, цягнуты работнікамі.

Калі зьяўляецца першы прасьвет у дзьверах, звольненых ад замуроўкі, хор пачынае Песьню Цара Псальматворцы (65), заклікаючы ўсю зямлю пяяць славу імю Уседзяржыцеля: „Воскликните Богу вся земля!“ Папа нявольна кідае пагляд у вышыню, дзе галубы, якія туляцца ў высокіх гзымсах прытвору, выказваюць пералётамі сваё зьдзіўленьне, чуючы грымотныя гукі хвалебнага псальму.

Папа вяртаецца да сядалішча, у той час, як пэнітэнцыяры, г. знач. спаведнікі сьв. Пётры, прыступаюць да абмываньня парога Сьв. Дзьвераў: яны абмочваюць яго свячанаю вадою праз губкі і выціраюць. Перад вымытым парогам кладзецца дарагі дыван. Надходзіць мамэнт уваходу, і ўсе вочы скіраваны да Першасьвяшчэньніка, які, спусьціўшыся з сядалішча і трымаючы ў левай руцэ запаленую сьвечку, прагалошвае: „Вось вароты Госпада“, на што лік адказвае: „Праведныя ўвайдуць у іх“ (Пс. 117, 20). Затым, па адпаведнай малітве, у якой успамінаецца Старазаветны Юбілей і выпрошваецца міласьць Божая дзеля надходзячых пакаянных подзьвігаў, ён каля парога атрымлівае ад кардынала першасьвяшчэньніцкі посах, завершаны крыжам, і, скланіўшы калены, цалуе парог Сьв. Дзьвераў, як некалі гэта рабілі на Ўсходзе гэткія сьвяціцелі, як Іоан Залатавусны, уваходзячы ў асабліва паважаныя сьвятыні.

Звычайна Папа, устаўшы з каленаў і ўваходзячы ў базыліку цераз Сьв. Дзьверы, пачынае сьпеў Амброжавага гымну: „Цябе, Бога, хвалім“, але гэтым разам Першасьвяшчэньнік адступіў ад звычайнага парадку і цьвёрдым голасам запяяў пачатковыя словы гымну Вялікае Пятніцы: „Pange

lingua gloriosi lauream“ і ўвайшоў пад скляпеньні свайго прастольнага сабору. Натаўп у сваёй большасьці яшчэ ня бачыць Папы, але, чуючы трубныя гукі, разумее, што Сьв. Дзьверы адчынены, і сьв. Айцец ужо пераступіў праз іх парог. Натаўп вітае гэты мамэнт грымотнымі выразамі радасьці, верны словам Псальматворцы: „Шчасьлівы народ, які знае трубны кліч!“ (68, 16).

Папа прыходзіць у капліцу Сьв. Тайнаў, дзе яму выказваюць сыноўскую пашану прадстаўнікі Рымскіх брацтваў, якім ён у адпаведным кароткім слове паручае на цэлы год дзеннаначную варту Сьв. Дзьвераў.

Тымчасам паход узнаўляецца. Выпаўняючы завет цара Давіда: „уваходзьце ў вароты яго з славаслоўем, у двары яго з хвалою“ (99, 4) і помнячы, што Першасьвяшчэньнік толькі што выпаўніў заклік Ісайі прарока: „Адчынеце вароты; хай увайдзе народ праведны, ахоўваючы ісьціну“ (27, 2) усе, бяручыя ўдзел у гэтым паходзе перад праходам праз Сьв. Дзьверы, падобна да Першапастыра, таксама схіляюць калены і цалуюць сьвяты парог. Паход праходзіць у цэнтральны карабель царквы, і Папа, несены на троне, зьяўляецца над плешчучым морам верных; яго вочы гарац надлюдзкім агнём і быццам прабіваюць натаўп; твар як быццам вырастае з чалавечых рамак, а правая рука шырокім рухам багаслаўляе стаўшую на калены масу. Паход праходзіць удоўж усяго гігантычнага карабля сабору і, абагнуўшы поручы пад‘земнае капліцы, г. зв. Confessio, дзе перахоўваюцца Сьв. Мошчы Першаапостала, спыняецца каля правага кутка Першасьвяшчэньніцкага аўтара перад капліцай сьв. Петранэлі. Тут выстаўлены Сьв. Дары, якім Сьв. Айцец і аддае належнае паважаньне.

* * *

Затым надходзіць канчатковая часьць багаслужэбнага Юбілейнага чыну. З вышыні балькону, збудованага над названаю капліцаю, даецца канонікамі сьв. Пётры спэцыяльнае багаслаўленьне сьвятымі прадметамі, меўшымі ўдзел у Крэсным шляху Богачалавека і моцна перахоўванымі ў асобнай капліцы, пабудованай у верхняй часьці магутнага стаўпа, які, разам з трома іншымі, падтрымлівае найбольшы ў сьвеце купал, створаны, як ведама, Мікель Анджэлё. Прадметы гэтыя паказваюцца вельмі рэдка, а беспасярэдні доступ да іх зьяўляецца вынятковым прывілеем канонікаў базылікі Сьв. Пётры.

Паход, пасьля пакланеньня Сьв. Даром, затрымліваецца каля Першасьвяшчэньніцкага аўтара; Папа сходзіць з ся-

далішча, становіцца на калены і яго залатая мітра, мэта шматтысячных паглядаў, зьнікае на колькі мінут, схаваўшыся за бліскучымі вопраткамі швайцарскіх жаўнераў. Раптам разьлягаецца пасьпешны папераджальны гук звончыка і да поручаў капліцы Сьв. Мошчаў, ад'значаных каштоўным дыванам, падходзяць тры канонікі з Вялікімі Рэліквіямі: у рамцы з чыстага шкла знаходзіцца Сьв. Дзіда, прабіўшая цела Збаўцы; у цяжкім пазалочаным крыжы кусок Жыцьцятворчага Дрэва і, нарэшце, хуста сьв. Вэронікі з адбітым Тварам Госпада. Рамка гэтага сьвятога прадмету настолькі цяжкая, што яе нясуць усе тры канонікі разам. Тры названыя рэчы паказваюцца схіленаму на калены Першасьвяшчэньніку, а пасьля ў багаслаўляльным жэсьце абводзяцца перад вачыма натаўпу, таксама стаўшага на калены.

Гэты мамэнт высока паднімае містычны настрой прысутных, і яны, ахопленыя ўспамінымі аб адкупляльнай ахвяры Богачалавека, з тым большым зьмірэньнем рыхтуюцца прыняць адпушчальнае багаслаўленьне зямнога Намесьніка Хрыста і пастаўленага Ім-жа Вярхоўнага Пастыра.

Сядалішча Папы пастаўлена на высокай падстаўцы, каб усе маглі бачыць Першасьвяшчэньніка; два кардыналы паднімаюцца да яго: адзін з трэбнікам, другі з запаленаю сьвечкаю, агонь якое напамінае верным, што хутка, атрымаўшы Вярхоўнапастырскае дараваньне, душы іх пачнуць выпаўняць прыгожае процістаўленьне Цара Мудраца: „Сьвятло праведных весела гарыць; а сьвяцільнік грэшных пагасае“ (Пр. 13, 9). Чытаецца лацінскі і італьянскі тэкст адпушчэньня, Першасудзьдзя вымаўляе разрашальныя словы, чутыя, дзякуючы радыё, ня толькі шматтысячным натаўпам, сабраным у вялізарным саборы, але і ўва ўсіх куткох зямное кулі. Вікары Хрыста запраўды мірстваваў усяму сьвету!

Багаслужэбны чын урачыстасьці ўжо скончаны. Радасьцям натаўпу, толькі што слухаўшага словы добрае весткі асьвячэньня „*всѣхъ и вся*“, няма ўжо стрыманьня. Ён „нутром і навочна“ бачыць, што Сусьветная Царква верна ідзе па сьлядох яе Боскага Заснавальніка і, як Яго Насьледніца, можа паўтарыць за Ім: „Ня думайце, што я прыйшоў нарушыць закон або прарокаў; не нарушыць прыйшоў Я, а споўніць“ (Мацьв. 5, 17).

Вось Першасьвяшчэньнік, перад уваходам у Сьвятыя Дзьверы, выпаўняе загад самога Госпада, даны некалі прароку Ераміі: „Стань у варотах дому Гасподняга і прагаласі там слова гэтае і скажы: слухайце слова Гасподняе... папраўце шляхі вашыя і дзеяньні вашыя!“ (7, 2, 3). А цяпер, стоячы перад масаю пасомых, гэты 264-ты намесьнік

Першаапостала гаворыць словамі апошняга: „Узрастайце ў ласцы і пазнаньні Госпада нашага і Збаўцы Ісуса Хрыста" (11, 3, 18).

Бо-ж уся мэта Юбілею заключаецца ў гэтых словах, і 19 вякоў, прайшоўшых ад часу апошніх мамэнтаў зямнога жыцьця Богачалавека, зьяўляюцца блiскучым і памятным зьвяном у стройным бегу гадоў: „цяпер і ў дзень вечны".

Пад мерны рытм сярэбраных трубаў Папскі паход ізноў прыходзіць у рух, Першасьвяшчэньнік бязустанна багаслаўляе паднятаю рукою разрадаваны натаўп і пасьля пакідае сабор. Пачынаецца адліў людзкога мора: народ бясконцым многавусным ручаём запаўняе заліты раскошным рымскім сонцам перадсаборны пляц. Шмат каму хацелася-б увайсьці ў Сьвятыя Дзьверы (яны служаць толькі для пакаяннага ўваходу), але іх пільна вартуюць швайцарцы ў шоломах і латах, — яны ня будуць упадабняцца тэй варце, якая „праспала Ўваскрасеньне Хрыстовае", атрымаўшы „досіць грошай", — гэтыя сыны Царквы стойкія, як горы. Толькі пасьля паўдня Сьвятыя Дзьверы стануць даступнымі для пілігрымаў, якія ў працягу году будуць карыстацца імі, прыбыўшы сюды ад усіх вятроў і краёў сьвету: асьвячаны парог няраз абросіцца сьлязьмі ня толькі пакаяньня, але і радасьці пры думцы, якая на Фаворы ўзьнікла ў Кіфы: „Госпадзе, добра нам тут!"

* * *

Як вядома, апрача пакаяннага адведаньня базылікі сьв. Пётры, дзеля атрыманьня вялікага і поўнага адпусту*) неабходна споўніць свае малітвы яшчэ ў трох іншых галоўнейшых базыліках Рыму, а гэта ў сьв. Іоана Лятэранскага, у сьв. Паўла за Сьценамі і ў сьв. Марыі Вялікае, а дзеля таго і ў іх ёсьць свае Сьвятыя Дзьверы, якія былі ўрачыста адчынены таксама 1 красавіка Папскімі легатамі, г. зн. упаважненымі на гэта кардыналамі.

Мы будзем толькі кароценька казаць аб гэтых цэрамоніях.

Лятэранскі сабор, называны архібазылікаю, катэдраю Рыму, а таксама Царквою Маткаю і Галавою ўсіх цэркваў

---

*) Хай тыя, хто йначай думае, не скарыстаюцца маім пропускам споведзі, як варунку адпушчэньня грахоў і пакаянных мераў, — споведзь ёсьць бязумоўны варунак атрыманьня Юбілейнае ласкі.

А. С.

Рыму і сьвету, зьяўляецца катэдральным саборам Папаў, як патрыярхаў Захаду. Дзеля гэтага значэньня Лятэранскага сабору Сьвятыя Дзьверы адчыняў у ім Вікары Папы, як Рымскага Япіскапа, кардынал Маркэтті Сэльваджані. Адчыненьне Сьв. Дзьвераў у Лятэране павінна быць адзначана тым, што перад урачыстасьцю кардынал выставіў дзеля пакланеньня верных глыбока паважаны абраз Збаўцы, перахоўваны ў блізка паложанай капліцы „Сьвятая Сьвятых", куды цэлымі гадамі ня ступае чалавечая нага. Можна сказаць, што з 1-га красавіка, г. зн. з дня адчыненьня Юбілею, да Вялікае Суботы ўва ўсім лацінска-хрысьціянскім сьвеце (гавару аб цэрквах) толькі гэты абраз ды яшчэ абраз Божае Маці ў базыліцы Санта-Марыя-Маджорэ застаюцца адкрытымі для вачэй верных, бо, згодна з лацінскім абрадам, усе абразы ў цэрквах у працягу спомненага пэрыяду завешваюцца фіялетавымі хустамі. Адчыненьне Лятэранскіх Сьвятых Дзьвераў насіла чыста Рымскі народны характар, у паходзе было войска і маса «бязбілетнага» люду ў процілежнасьць Ватыкану, куды дапушчаліся толькі асобы, якія заручыліся білетамі.

У саборы сьв. Паўла за Сьценамі ўрачыстасьці быў, наадварот, прыданы ўсходні і манашаскі выгляд. Базыліка гэтая, толькі напярэдадні ўрачыстасьці пераданая Папе італьянскім урадам, абслужваецца бэнэдыктынцамі. Вось чаму на адчыненьне яе Сьв. Дзьвераў, зробленае паважным і прыгожа вялічным кардыналам Граніто Піньятэльлі ді-Бэльмонтэ, старшынёю Кардынальскага Колегіюму, зыйшліся з шмат якіх краёў настаяцелі бэнэдыктынскіх манастыроў, маючых гэтулькі агульнага з усходнімі манастырамі; апрача таго ў кардынальскім паходзе бралі ўдзел сэмінарыстыя грэцкага і армянскага колегіюмаў, манахі грэцка-сусьветнага манастыра ў Гротта Фэррата, — сярод чорных расаў гэтага Сусьветнага Ўсходу прыемную рознаякасьць унясьлі і агніста-чырвоныя сутаны Нямецкага Колегіюму. Дадам, што кардыналу Бэльмонтэ ў характары літургічных асыстэнтаў служылі монс. Чэзарыні, асэсар Сьв. Конгрэгацыі Усходніх Цэркваў, і монс. Чэрконэ, віцэ-сэкрэтар Першасьвяшчэньніцкае Рускае Камісіі.

Адчыненьне Сьвятых Дзьвераў у базыліцы Сьв. Марыі Вялікае або, паводле быўшага тут цуда (352 г.), называнай сьв. Марыі Сьнежнай, выканаў кардынал Чэрэтті. Ён-жа адкрыў дзеля пакланеньня верных і цудатворчы абраз Божае Маці, што носіць імя „Збаўленьня рымскага народу". Паўторым, што толькі гэты абраз Прачыстае і Лятэранскі абраз Збаўцы і застаецца цяпер адкрытым да Вялікадня ўва ўсёй лацінскай галіне Каталіцтва.

* * *

І вось Надзвычайны Сьвяты Юбілей нашага Адкупленьня адкрыты, і ўсё, што да гэтага часу мы можам адзначыць у адношаньні да яго, кажа нам, што ён будзе мець свой ласкавы ўплыў.

Шляхі духоўных запросаў чалавецтва нястрымана вядуць у Рым. Рым — мэта, і ўрачысты абрад, споўнены 1-га красавіка Айцом Сусьветнасьці, Папаю Піусам XI, у прысутнасьці вялікага лікам і рознамоўнага натаўпу верных, ясна кажа, што заклік узаемнага прымірэньня, зроблены Рымскім Першасьвяшчэньнікам, не застаўся голасам галосячага ў пустыні.

Выходзячы з сьв. Пётры і пракладаючы сабе дарогу сярод хваляў людзкога адліву, вырываўшыхся з многіх лікам выхадаў найвялізарнейшага храму на сьвеце, адчувалася, што ня трэба глыбокага аналізу, каб зразумець стан душы людзей, выходзіўшых з яго. У кожным жэсьце, ў кожнай позе, у словах, якія можна было падхапіць на лёце, відаць было зьдзіўленьне.

І праўда, ня толькі сам стары сабор і адбытая ў ім урачыстасьць сьведчыць, што Вечны Горад паранейшаму застаецца для чалавецтва тым, чым ён быў у першы Юбілей (1300 г.), абвешчаны Боніфатам VIII, калі натаўпы «ромэяў», г. зн. пілігрымаў, прыходзіўшых з-за Альпаў і з-за мора, пры першым бачаньні мэты іх цяжкае падарожы, падалі на калены з крыкам: „Рым, Рым!“

А гэта-ж тады Рым ледзь паўставаў з руінаў, да якіх яго давялі барбарскія наезды і міжусобныя нялады, а цяпер ён паказвае перад гісторыяй яснае сьведчаньне таго, якое дабро прыносіць дзяржаве яго лучнасьць з Царквою: спакойнасьць і цьвёрдасьць пануе ўсюды, ня гледзячы на энэргічныя социяльныя мерапрыемствы, якія тут праводзяцца ў кожным месцы. Шаснаццацьвяковы ўплыў Царквы, затрыумфаваўшай над паганствам, зрабіў з італьянцаў агрэгат, які, прымаючы вымаганую форму, захоўвае гібкасьць і вязкасьць свае істоты.

Рым, у старадаўнасьці матар'яльны ўладар сьвету, не перастае і ў нашыя дні быць духоўным уладаром Старога і Новага Сьвету. Магутнаму яго прыцяганьню нішто ня можа процістаяць, і мы на кожным шагу бачым, што натаўп чужынцаў прыбывае сюды ў хваляваньні, прабывае тут у зьдзіўленьні і адбывае адсюль з ясна напісаным на тварах шкадаваньнем.

Рым, Рым, Рым! Гэтае вешчае імя зазначана на вуснах ня толькі пілігрымаў Юбілею, але і наагул усіх, хто наве-

даецца да сталіцы Італіі, ізноў умацаванай на сваіх асноўных устоях: на сусьветнасьці веры яе грамадзян і на іх любові да бацькаўшчыны, да гэтай запраўды багаслаўленай і выбранай Богам краіны. Рым!... Прыезныя як быццам чуюць патрэбу паўтараць гэтае магічнае слова, быццам каб пераканацца, што яны ў Рыме, і грунт, па якім яны ступаюць,— рымскі, запраўдны, непадроблены. Ці-ж дзеля шмат каго гэта ня было лятуценьнем усяго жыцьця? І якое вялікае шчасьце таго, хто нарэшце зьдзейсьніў яго!

Шляхі духу, сказалі мы, нястрымана цягнуць у Рым, але сюды прыводзяць і дарогі больш зямнога значэньня, зьбягаючыся з усіх пунктаў небасхілу. Тут адбыліся і адбываюцца падзеі, якія кажуць чалавецтву, што яго калектыў— ня стада бязвольных істотаў, якім робяцца людзі пад ярмом соцыялізму ўва ўсіх яго ступенях, а стройная цэласьць, дзе, пры агульным інтарэсе, разумеецца і шануецца цана асобы. Гістарычнаму матар'ялізму сучасная Італія зрабіла сьмяротны ўдар, і мы з задаволеньнем ад'значаем, што і іншыя краі пачынаюць разумець гібельнасьць гэтае філёзофскае памылкі.

Сусьветная Царква заўсёды баролася проці яе, — сьведкамі чаго зьяўляюцца Папскія соцыяльныя энцыклікі,— у гэтым адношаньні, як і ўва ўсіх іншых, яна рабіла Божую справу, бароняча інтарэсы і асобнае асобы і людзкіх грамадаў рознага разумнага роду: сям'і і дзяржавы, — на прыкладзе яе дзейнасьці мы бачым, што яна спаўняла тое, што было сказана Ісайі Прароку: „над усім паважаным будзе пакроў“ (4, 5).

Італьянскі ўрад зразумеў надлюдзкае значэньне Папства і ў акце прымірэньня з апошнім адкрыта прызнаў, што Царква была „духам суда і духам агню“, калі баролася і борацца з камунізмам нават у яго зародкавых формах.

Папа Піус XI, гэткім чынам, запраўды зьяўляецца „палаючым агнём у часе ночы“, у страшэнную цемру якое ўкінулася-б чалавецтва, калі-б пайшло на хітрыя прынады падкідчыкаў соцыялізму, масонаў, або, скруціўшы галаву, рынула ў прытон простых галаварэзаў-бальшавікоў.

Вось чаму, да ўсіх ласкавых дароў Юбілею, ува ўсіх пілігрымаў і простых гасьцей Рыму ёсьць гэткае імкненьне пабачыць Папу, падыйсьці блізка да яго, дакрануцца да Яго далоні.

Бачыць Папу ў Рыме — гэта патрэба! Вечны горад з усімі цудамі мастацтва і прыроды быў-бы нічым, калі-б ён не ўдухаўляўся полымем, якое тут вось ужо 19 вякоў

непагасальна гарыць на Ватыканскім узгорку, і гэты агонь, рупліва падтрымліваны Папаю Піусам XI, даўшы сьвету гэтулькі ласкавых дароў, споўніць сваё канцавое назначэньне, даставіўшы нашым патомкам магчымасьць гукнуць разам з прарокам: „Агонь пажрэ ворагаў... Госпадзе, Ты падарыш нам мір“. (Іс. 24, 11, 12).

(„Къ Соединенію“).

*Сьвяшч. А. Сіпягін.*

---

# З Палесься.

*Ах Ты, Божа міласэрны,*
*Зірні з неба на Палесьсе.*
*Што за цемра, што за цемра,*
*Як асенняй ночкай ў лесе.*
*Ані веры, ні асьветы.*
*Замярло тут ад вякоў.*
*Толькі верацъ у знахарства,*
*Ды у розных калдуноў.*
*З часоў рускіх ці расейскіх,*
*Тут дзяржацца йшчэ папы,*
*Але да дабра ня вучацъ*
*Толькі грызуцъ, як клапы.*
*Колькі разоў быў я ў цэркве,*
*Ані разу не спаткаў,*
*Каб калі пасьля абедні*
*Поп нам пропаведзь сказаў.*
*Што нам можна, што ня можна,*
*Чаго хоча ад нас Бог,*
*Каб маліцца, прасіць Бога,*
*Шчыра толькі як хто мог.*
*Папы, папы духоўнікі,*
*Цяжка будзе вам цярпець,*
*На тым сьвеце вы па вушы,*
*У смале будзеце сядзець.*

За такое дагляданьне,
Вам паручаных авец,
Што ня вучыш, як патрэба,
А йшчэ лічышся Айцец.
А вы людзі падумайце,
Што вы маеце рабіць.
Мая рада: прагнаць папоў,
А Уніятаў папрасіць.
Уніятаў місьянэраў.
Тыя вас навучаць жыць,
І прыкладам і манерам
І як Бога упрасіць.
Каб адвярнуў ад вас цемру
І моц розуму вам ўліў,
Каб за вас штодзень маліўся,
За вас Бога упрасіў.
Каб Найвышшы сваім плашчам,
Усё Палесьсе тут акрыў,
А па сьмерці разам з вамі,
На век векі з вамі жыў.

СТАРАДАЎНІ.



Ґ. Кастэльнік.

# Вялікія людзі.

(*З біблійнага музэю апавяданьні*).

## Ільля, прарок Божы, сумуе.

Божа, якая гарачыня на пустыні. Моў-бы неба намаглося спражыць зямлю! Агонь з цэлае паўкулі нябеснай льецца, бы растопленая медзь, і спальвае ўсё, што знаходзіцца на зямлі. Здаецца, што чырвоны пустынны пясок вось-вось пачне растапляцца і разьлівацімецца па зямлі, моў расплаўленая медзь. Ўсё, што мае свой колер — зялёны, чорны, белы, ўсё, што жыве — расьціна ці жывёла, курчыцца, малее, папялее—гіне: нябесны агонь выцягае з яго сілу. І здаецца, што вось-вось цэлая зямля зьнікне, як зьніклі тыя зоры на небе, толькі чырвоны, люты агонь астанецца у паветры і на зямлі...

Бяда чалавеку, бяда вярблюду, бяда і сабацы — бяда гора ўсяму жывому, што цяпер на пустыні! Жывое жывому спачувае — прыкра глядзець хоць-бы і на жывяціну, што мучыцца ў тым зямным пекле. Вады тут столькі, скολькі яшчэ асталося ў крыві. А тая кроў чахне з цела, бо цела гарыць ад гарачыні...

Як-жа гэта сталася, што цяпер тут на пустыні—глянь: вун там пад вялікім карчом — сядзіць чалавек, каторага і зялёны рай зямны нягодны насіць, Чалавек Божы Ільля?

Як гэта сталася? Аб гэным турбуецца і сам прарок Божы. І сумуе — цяжка сумуе. Думка ў думкі дапытваецца, а выхаду ня можа знайсьці. Знайдзе выхад толькі Госпад нябесны, Каторы ссылае людзям так крутую долю, каб людзі дзіваваліся. І просіць Ільля Бога — моліць, каб Госпад ужо ўрэшце з яго доляю скончыў...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Госпадзе Саваоф! Досі ўжо! Досі! Вазьмі ад мяне маю душу — бо, як бачу, ня лепшы я за маіх бацькоў — і мая доля ня лепшая! — наракаў прарок божы.

Сядзеў пад вялізным карчом зьняможаны і зьбедаваны. Два дні ня еў, два дні ня піў. Як-бы ня быў гэта чалавек, толькі сухая галіна, што зрасталася з гэным карчом. З яго вышыні не асталося ніякага знаку, бо скуліўся ў малень-

кім цені карча. Агонь ягонай душы, каторы заўсёды маляваўся на яго твары, цяпер неяк пагас і зьнік перад агнём пустыні, як сьвятло сьвечкі зьнікае перад сонцам. І чуе чалавек, гледзячы на гэта, што яно ня так павінна быць... Што тут „свая доля“ зломана й застыдана праз „несваю долю.“ Вось так цяпер выглядаў і прарок Ільля. Доўгі яго зарост быў загнаны пяском і абліты потам, так што не адрозьніваўся ад ягонага раменнага пояса. А ягоныя вочы моў іскры блiскалі з-пад попелу, з якога яшчэ падносіцца ледзь заметны дым.

От, не чалавек, але нейкі пасьмертны чалавечы цень, пакутуе на пустыні.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Госпадзе! — прамовіў, Ільля, але далей ня мог ужо гаварыць, бо пёк агонь яго ў горле і толькі думкамі жаліўся прад Богам.

— Госпадзе! Таго й мая прарочая душа не згадае Бязбожны Ахаў і лютая Іэзавэль, цар і царыца над Ізраілем цешацца, а я тут прападаю... Яшчэ перад тыднем караў Ты іх на маё слова, а цяпер я мушу ўцякаць з душою... Дзіўная твая сіла! Тут тут жа б‘ець агнём з неба, і ўгінаецца, пад - даецца—моў немач... Зямля яе гідзіць, а яна маўчыць...Няма цэласьці, няма працягласьці, ня мае даканчэньня... Цяжкая доля пракракаў, што выконваюць Тваю сілу! І дакуль-жа, Госпадзе, дакуль!... Ці раз уцякаў я перад Ахавам? Ці раз Ты яго караў за мяне? А канца няма! Няма паляпшэньня!... А дакуль, Госпадзе, так будзе — дакуль? Вось я састарэўся ў гэтым змаганьні, а канца ня відаць!

Ці-ж не Твая зямля і ўсё, што на ёй? А яна прыдушвае праведнага, а грэшнага на руках носіць... Праўда і гэта не навекі і тое не навекі,але дзе-ж канец? Ахаў і Іэзавэль у палацах, а для мяне няма месца на зямлі! Вось тут гарую на бязьлюдзьдзі... Божа! калі такая воля Твая, няхай і так будзе! Вазьмі маю душу, ад мяне! Вазьмі Ты, не Іэзавэль, але Ты, бо сорамна мне і ўспамінаць пра гэта! Што падумала-б Іэзавэль, што сказалі-б паганцы!.. „А дзе-ж яго Бог?“

Вазьмі маю душу, Госпадзе, а цела схавай тут у пустынным пяску, спалі агнём, разьвей попел віхрам па пустыні, каб за мною і сьлед згінуў! Каб Іэзавэль аба мне ня ведала.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Гэтак наракаў Ільля, вялікі прарок Божы, ў цяжкай гадзіне. Хоць і быў прарокам, хацеў ён памёрці, як паміраe жабрак. Ані думаць ня мог пра тое, што Госпад пашле па ягс з неба агністы свой воз і жыўцом к Сабе яго вазьме...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

У Самарыі царская палата з сланёвай косьці. Вось бачу яе... Ці я ня ў пустыні, ці яна прышла за мною ў пустыню — зьдзекавацца нада мною? Ахаў яе збудаваў — той бязбожны, Ахаў! Палата бязбожніка цара стаіць бясьпечна, і дае мягкае прытулішча свайму гаспадару .. А мая ўбогая хацінка асталася сіроткаю ў Галяадзе... Няраз яно так здаралася! Цяпер хіба апошні раз!... А што з маім паслужнікам, каторага я пакінуў у Вірсавіі? Ці ня зьдзекуецца, над ім лютая Іэзавэль? Бо мабыць так думае: — калі не магу галавы ўцяць, то хоць руку... Замест мяне — майго памоцніка! Госпадзе Саваоф — сьцеражы яго! Іэзавэль, дачка Етбааля, сыдонскага цара-паганіна, — яна корань усяго ліха ў Ізраілі! Яна адводзіць народ Божы ад Ягвэ да Вааля! Яна выгубіла Божых пракоаў — астаўся я толькі адзін. І цяпер яна цешыцца! Няма, быццам, сілы проці яе!...

Дзе ты, сіла Гасподняя, што агнём паліш?... Няўжо-ж ты проціў мяне зьвярнулася й мяне пражыш. А Іэзавэль ходзіць па палатах з сланёвай косьці ў Самарыі! Вось бачу яе... гуляе ў харомах, спацыруе па львіных ды мядзьвежых пухкіх скурах... А я дзе? У прастольнай Самарыі? — Не, яна для бязбожных цароў! А я ў пустыні, я кінуты на жыр львом ды мухам...

Ходзіць Іэзавэль па раскошных харомах з сланёвае косьці, а сто рабынь-прыслужніц моўчкі стаяць па кутках і чакаюць на міргі яе вока; дзесяць тысяч жаўнераў чакаюць яе прыказаў... У сваёй царскай бясьпечнасьці ды ў царскіх сваіх выгадах толькі адну журбу маець Іэзавэль. Вось чую, як гаворыць ды прытаківае: „багі мае, зрабеце, учынеце, каб заўтра а гэтай пары галава Ільі Тэзбыцяніна лягла тут на стале!

Як ён пабіў знахароў маіх і варажбітоў вялікага Вааля, што елі з майго стала, так я яго заб'ю! Няўжо-ж ён лепшы за тых ізраільскіх (жыдоўскіх) чарцей, каторых я ўжо выгубіла"?...

І дзесяць тысяч жаўнераў пагналася за мною на яе загад...

Госпадзе! Іэзавэль перамагае ўсяляк, яна мяне прыгнятае. Паліць мяне пустынным агнём, морыць прагнасьцю і голадам!

Вазьмі ад мяне душу маю, Госпадзе Саваоф! Бачу, што я ня лепшы за тых, каторых Ты цераз мяне караў.. І ўпадобнілася мая доля да іх долі! Рвецца — распадаецца маё дзела... Непатрэбны я ўжо на зямлі! Марна канчаю... Ох, Божанька, а я так хацеў Табе служыці!

* * *

Думкі высыхалі ў душы прарока, бо даходзілі да агню, што гарэў у сэрцы. Дык сэрца стала гаварыць — і прарок Божы хацеў расплакацца, ды ня было ў яго ўжо сьлёз, бо пустынны агонь быў сільнейшы, як яго сэрца... І толькі суха, бяз сьлёз хліпаў.

* * *

— Госпадзе! хай дзеецца воля Твая! Але я ня гэтага чакаў! Я думаў інакш! Чаму-ж Ты не паступаеш, як людзі думаюць і спадзяюцца? Ашукаўся Ахаў, але й я ашукаўся— я Твой прарок! Што мне думаць тады пра Твае справы? Ці дзеля таго так паступаеш Ты, Госпадзе, каб не перарос чалавек Тварца? Каб і прарок Твой быў нічым прад табою? А мо‘ Ты мяне ўжо адкінуў?

Прызнаю: нікчэмнасьць я перад Табою! Але-ж горка вернаму слузе, калі гаспадар яго прагоніць... Дык да каго-ж мне зьвярнуцца? Ня маю нікога іншага, акром Цябе... Табе я служыў, а ты мяне ўвесь час сьцярог і ратаваў...

Посуш‘ю пакараў Ты Ахава і свайго Ізраіля, а мяне карміў Ты хлебам і мясам пры Хораці — пры ручаі. Ты казаў груганом і яны мяне кармілі. А цяпер вось тут гіну з жагі, з прагнасьці ды з голаду...Ці-ж ня маеш ужо груганоў на зямлі? Скажы ім, каб прыляцелі ды каб хоць сваімі крыльлямі мяне халадзілі і ад мух абароньвалі!

* * *

Няпрыметна павёў вачыма Божы прарок сюды-туды: ці ня споўніцца яго просьба, ці груган не пакажацца? Але ня той быў час у Госпада Саваофа.

* * *

У сыдонскай Сарэпце маё слова было сільнае: памножвала муку і алей у доме беднае ўдавы ды ўскрашала памёршых. Хоць уцякаў я тады ад Ахава, маё слова было магутнае. Хоць была немач, — але ў немачы тады была сіла.

На гарэ Кармэлі мая малітва была прыемліва, мой дух быў сільны. Чатыриста і пяцьсот мужоў, аўтарнікаў Вааля, драліся моў драчы з раньня да паўдня, калечыліся ды крывавіліся — і ня выслухаў іх Вааль, бо Вааль — гэта глупства... А Ты, Госпадзе, слава Ізраілева, Ты мяне выслаў перад цэлым народам! Спаліў Ты агнём з неба маю ахвяру і пазнаў тады ўвесь народ, што Ты адзін Бог, а другога няма! І — на загад мой пабіў народ чмутароў Ваалевых... пры ручаі Ціссон. Ня йшоў дождж, ня падала раса праз паўчацьвярта года — на маё слова. А потым лінуў дождж, паводле майго слова. Бо Ты быў са мною, Слава Ізраілева!

Ты прыходзіў ка мне, са мною размаўляў, аб'яўляў мне свае тайны. Захапляў мяне, бы сваю дзяціну... То былі справы — так, то былі справы, ад каторых цары і народы трасьліся...

А вось цяпер усё гэта перада мною, моў казка, моў сон...

І ўжо сам не разгадаю: як гэта ўсё магло дзеяцца, калі яно цяпер такое далёкае,недасягальнае, дзіўнае, няжывое, не маё... Цяпер толькі пустынны агонь навакол мяне і ўва мне. А няма ні прывіду, ні Твайго голасу, ні знаку, ні магутнасьці...

* * *

Перастаў Ільля жаліцца прад Богам. Чакаў: ці зьявіцца яму Госпад у прывідзе, або ў голасе, ці іншым знаку або сіле... Але ня было ад Бога ані прыявы, ані голасу, ані знаку, ні моцы. Ня тая была пара ў Бога. Так яно дзеецца, што адны моляць Бога, каб прадоўжыў жыцьцё, ды ўміраюць; другія-ж просяць сьмерці —ды жывуць. Ці звычайныя, ці пракрокі... А Бог слухае ўсіх ды робіць сваё.

* * *

Гасьне мой зор, гасьне ў мяне жыцьцё... ды разам з ім слабее ў мяне вера. Госпадзе! Бачу, што я ня годны Твайго пасольства... Належна караеш мяне!... Карай, Госпадзе, а сваё пасольства павер іншаму, дастойнейшаму, каб Хвала Твая ў Ізраілі не загінула! Не, не на Цябе наракаю, Божа Саваоф! На сябе наракаю! Вазьмі маю душу ад мяне, бо я ня лепшы за маіх бацькоў! Ох, Божа мой Божа!..

* * *

З немачы і ўтамленьня заснуў Божы прарок на пустыні пад вялікім карчом. Як-бы памёр. Ужо не прызываў Божага Імя, не маліўся, не надзеяўся, бы мёртвы... І вось цяпер прышла Божая пара.

Што, бач, сказала-б поле, калі гаспадар яго арэ? Сумавала-б безнадзейна, як прарок Ільля на пустыні. А гаспадар акурат тады падгатаўляе поле пад новы засеў.

* * *

Што гэта?... Над пустыняю адчынілася неба... Ангел Божы прыступіў да Ільі, таркануў яго і сказаў: „Устань і еш!“ — Прачнуўся Ільля, а перад ім баханец хлеба і чаша з вадою.

Наеўся прарок і напіўся, дый зноў заснуў. Ізноў Ангел прыступіў да яго, крануў яго і сказаў: „Устань і еш, бо яшчэ вялікую дарогу маеш перад сабою!“ Тады ўстаў прарок, еў і піў. І —як чытаем у сьвятых кнігах — ішоў ён аб той ядзе сорак дзён ды сорак начэй — аж да сьвятое Харыў-гары, дзе Госпад зьявіўся Майсею.

На гарэ Харыў паказаўся Бог таксама і Ільі ды сказаў яму: Што ты робіш тут, Ільля?... Вярніся сваей дарогаю на пустыню, каторая каля Дамаску. А там намасьціш Гэсэля Сырыйскага цара; а Іiуя, сына Намдi, на цара Ізраільскага; а Елiзэя, сына Софот на прарока—свайго заступніка... І будзе так: хто ўцячэ ад мяча Гэссэлевага, таго заб‘е Іiуй, а хто ўцячэ ад мяча Іiуевага, таго заб‘е Елiзэй... Бо я памшчу за кроў усіх слуг Божых, што згінулі з рукі Іэзавэлі... Згіне ўвесь дом Ахава, выкараню з яго дому ўсё, аж да найменшага шчаняці... Іэзавэль заядуць сабакі на пляцы Ізраіля. і не знайдзецца нікога, хто б яе пахаваў.“

* * *

Цяжкая Божая дарога: крутая і доўгая... Цяжкая тым, што пнуцца на гару Гасподнюю, каб ваяваць адтуль процiў Божых ворагаў! Але-ж гора і тым, хто ваюець проці гары Господняе, бо яна іх накрые сабою, раздушыць, разатрэ і ня ўсьцямяць: на‘т калі?...

Аб гэтым размышляў прарок Ільля, як ішоў з Харыву да Дамаску цераз пустыню, і разгадваў сабе, што было і што мае быць...

Пераклаў

*Надбужны.*



# Наш адказ.

У расейскай варшаўскай газэце „Слово“ № 43 у першым артыкуле чытаем: „Пасьля бальшавіцкае рэвалюцыі ў кастрычніку... Ватыкан зьвярнуў вялікую ўвагу на працу дзеля захопленьня праваслаўных душ, як у Расеі, так і тым больш сярод расейскіх выхадцаў.“

Пасьля газэта выясьняе, якім чынам выявіў Ватыкан сваю працу: „Дзеля гэтага Ватыкан увайшоў нават у перагаворы з бальшавіцкаю бязбожнаю ўладаю праз спэцыяльную папскую дэлегацыю.“

Нашто гэта вышэй сказанае — мо‘ запытаеце — газэта піша? А таму, каб паказаць малаасьведамленым сваім чытачом, які нядобры Ватыкан, ня мае нават чалавечага спачуцьця для бедных рускіх людзей, гатоў прызнаць нават бязбожную ўладу ў Расеі, каб толькі дабіцца свае мэты, перацягнуць да свае аўчарні рускіх людзей.

Запраўды, Рымскі Папа падымаў голас і вёў перагаворы з бальшавікамі, але не дзеля сваей карысьці або дзеля прызнаньня савецкае ўлады, але дзеля дабра рускага народу ў Расеі і дзеля хрысьціянскае любові да бліжняга.

Прывяду некалькі фактаў, якія найлепей гавораць самі за сябе:

1) Даведаўшыся ад япіскапа Сыльвэстра (7. II-1919 г.) аб вельмі цяжкім палажэньні рускае царквы, Папа Рымскі Бэнэдыкт XV казаў кардыналу Гаспарі выслаць тэлеграму да Леніна, ў каторай прасіў яго, каб забараніў прасьледаваньне ў Расеі сьвяшчэньнікаў.

На Гэнуэскай Конфэрэнцыі прадстаўнік Папы Жозэф Піццардо 9.V-1922 г. уручыў старшыне Конфэрэнцыі просьбу (мэморыял) адносна да Расеі, а) каб у Расеі была дадзена поўная свабода сумленьня, б) каб была поўная свабода рэлігіі і в) каб савецкая ўлада не чапала царкоўнай маемасьці.

3) 14.V-1922 г. Папа дамагаўся асвабаджэньня патрыярха Ціхана і іншых духоўных, што знаходзіліся ў Маскоўскіх турмах і запрапанаваў Рымскі Папа заплаціць за ўсе царкоўныя каштоўнасьці, каб толькі іх савецкая ўлада не чапала з месца.

4) Даведаўшыся аб страшэнным голадзе ў Расеі, Папа выслаў туды Місію Помачы, якая сотні тысяч ратавала ад сьмерці з голаду. Я сам, будучы тады ў Маскве, бачыў і прыймаў удзел у гэтай Божай справе. Там, дзе было напісана вялікімі літарамі „Папа Русскому Народу,“ ніхто не дамагаўся ад тых, што даставалі помач, прыняцьця каталіцкае рэлігіі. І не магло быць інакш, бо купленых душ Каталіцкай Царкве ня трэба.

Вось якія перагаворы вёў Ватыкан з савецкаю ўладаю. Ці-ж можна было спадзявацца, што знайдуцца такія людзі, нават сярод расейскага народу, што, замест удзячнасьці за ўсё тое, што зрабіў для няшчаснае Расеі Рымскі Папа, будуць выдумваць зусім беспадстаўна нябывалыя рэчы (як напрыклад рожа, дадзеная Чычэрыну Архіяпіскапам Гэнуэскім), або прынамсі будуць падсоўваць злы намер у добрых справах. Пэўна, што заўсёды былі і будуць злыя бяз сумленьня людзі, але такіх нявельмі многа. Расейскі-ж народ, мне здаецца, не забудзе таго, хто памагаў у няшчасьці, хто ратаваў ад страшнае сьмерці ад голаду, і сваю ўдзячнасьць перакажа сваім пакаленьням.

Другая справа датычыць дзейнасьці Ватыкану аднosна да выхадцаў з Расеі.

Прыгледзьмася, што рабіў і робіць Апостальскі Пасад для гэтых бедных людзей, якія ня могуць вярнуцца на сваю Бацькаўшчыну, бо яна ў пазурох антыхрыста.

Памагае паводле магчымасьці матар'яльна, не жадаючы прыняцьця каталіцтва. Асабліва шмат гэтакай помачы даецца ў вялікіх гарадох, як Рым, Парыж, Бэрлін і іншыя. Таксама для расейскіх дзяцей адкрыты школы з утрыманьнем зусім дармовым, як напрыклад Намюр у Бэльгіі. Аднаго разу ў Парыжы ў садзе ля Эйфэлевай вежы давялося мне разгаварыцца з аднэю рускаю паняю, сын каторай вучыўся ў Намюры. Не знаходзіла слоў на пахвалу для каталікоў і ўдзячнасьці за добрае гадаваньне яе сына.

Да гэтай дзейнасьці Ватыкану і каталіцкага сьвету трэба тутака дадаць яшчэ тыя малітвы, якія заносіць Сусьветны Архірэй Піус XI за Расею. У месяцы сакавіку 1931 году, па загаду Папы Рымскага, па ўсіх каталіцкіх царквах сьвяшчэньнікі з народам маліліся за прасьледаваных у Расеі. І цяпер Сусьветная Царква ўвесь час моліцца за хрысьціян у Расеі, каб Госпад Бог адвярнуў ад іх цяжкія спробы.

Вось, дарагія браты нязлучаныя праваслаўныя, „перагаворы“ Папы Рымскага з бальшавікамі, якія могуць зрадзіць у сэрцы кожнага хрысьціяніна толькі ўдзячнасьць і пашану для наступніка Сьв. Апостала Пётры.

*Злучэнец.*



# Хроніка.

## У ПОЛЬШЧЫ.

**1. Альбэртын.** 25 чэрвеня с. г. пакінуў Альбэртынскі кляштар В. Пав. а. Піліп дэ-Рэжі. Амаль 5 гадоў а. Піліп працаваў у Альбэртыне, апошнія амаль 2 гады быў настаўнікам новікаў. Усе з вялікім жалем разьвіталіся з а. Піліпам, бо запраўды чалавек гэты быў годны любові і пашаны. Можна аднак спадзявацца, што справа сьвятой уніі праз гэты выезд ня будзе мець недахопу, бо ў Рыме ў Калегіі „Russicum,“ дзе а. Піліп будзе духоўнікам, можа ня менш зрабіць для сьвятой уніі.

На месца а. Піліпа назначаны настаўнікам новіцыяту ў Альбэртыне а. Сьцяпан Сакач, каторы ўжо прыехаў і прыняў абавязкі 23 чэрвеня с. г. На месца а. Сакача да Дубна прыедзе а. Язэп Швайгль. Жадаем новым настаўнікам багаславенства Божага на так важных становішчах.

**2. Дубно.** Шчасьліва закончыўся год навукі ў Папскай Усходняй Сэмінарыі. Чатырох сэмінарыстаў ёсьць на 5 апошнім курсе, так што можна спадзявацца за год новых сьвяшчэньнікаў, гадунцоў Дубненскае сэмінарыі. Новым уніяцкім сьвяшчэньнікам ня трэба шукаць месца, з усіх бакоў просяць уніяцкіх сьвяшчэньнікаў, — дзякаваць Богу маем жэрала, з каторага можам спадзявацца новых барацьбітаў за сьвятую унію.

**3. Вільня.** У чэрвені г. г. памёрла ў шпіталі Ольга Панько, жонка уніяцкага сьвяшчэньніка ў Дэлятычах. Усе, што знали нябошчыцу, вельмі яе шанавалі і любілі, асабліва 6 дзяцей, якіх пакінула. Вечны супакой яе сьвятой душы.

**4. Кодэнь.** Айцы Абляты у Кодэні маюць ужо аднаго айца Язэпа Лапушанскага, што прыняў усходня-славянскі абрад. Паводле жаданьня Я. Пр. Япіскапа Пшэздзецкага мае быць у Кодэні ля цудоўнага абраза Маці Божае парафія ўсходняга абраду, якую арганізуе а. Язэп. Лапушанскі.

**7. Варшава (КАП). Новы аўдытар Апостальскай Нунцыятуры.** Прыбыў у Варшаву і прыступіў да выпаўненьня абавязкаў новы Аўдытар Апостальскай Нунцыятуры Монсіньёр Альфрэд Пачыні, які дасюль займаў гэткую самую пасаду ў Белградзкай Нунцыятуры.

**8. Дубно (КАП 19.VI.1933). Пераход праваслаўнае калёніі ў каталіцтва.** Праваслаўныя чэхі, польскія грамадзяне, жыхары вёскі Людгардаўкі, дубенскага прыходу, грамадою

перайшлі ў каталіцтва. Яны прыбылі сюды 70 гадоў назад і былі каталікамі, але расейскі ўрад, грозячы высяленьнем за граніцу, змусіў іх прыняць праваслаўе. Цяпер у вольнай Польшчы яны вярнуліся да веры сваіх бацькоў.

**9. Варшава (КАП). Перанясеньне выдавецтваў АА. Езуітаў у Варшаву.** АА. Езуіты набылі апошнім часам ад дзяржаўнага скарбу пляц паміж Ракавецкаю і Вржосоваю вуліцамі. На гэтай парцэлі паўстане «Дом Пісьменьнікаў», у якім паселяцца сябры Таварыства Ісусавага, якія займаюцца навуковаю і выдавецкаю працаю. Таксама з часам сюды будзе перанесена часьць езуіцкіх выданьняў з Кракава, а якраз „Przegląd Powszechny“ і „Oriens.“

Пастанова Сойму аб упаважненьні ўраду на продаж АА. Езуітам гэтага пляцу ўжо прынята.

---

## ЗА ГРАНІЦАЙ.

**1. Citta del Vaticano. (КАП. 6.VI.1933). Падпісаньне конкордату Сьв. Сталіцы з Аўстрыяй.** 5 чэрвеня с. г. падпісаны конкордат Сьв. Сталіцы з Аўстрыяй. З боку Ватыкану конкордат падпісаў Дзяржаўны Сэкрэтар Пачэльлі, а з боку Аўстрыі канцлер д-р Дольфус і міністар справядлівасьці Шушнінг. Пры акце былі дзяржаўныя падсэкрэтары архіяпіскап Піццардо і прэлат Оттавіані, а таксама аўстрыйскі поўнамоцны міністар пры Сьв. Сталіцы. Конкордат апрацованы паводле ўзору конкордатаў з Італіяй, Прусіяй і Бадэнам.

**2. Citta del Vaticano. (КАП. 10.VI.33). Назначэньне Япіскапа-Суфрагана Пінскае епархіі.** Сьв. Айцец назначыў а. д-ра Кароля Неміру, пробашча парафіі сьв. Аўгустына ў Варшаве, тытулярным япіскапам Тавіі і япіскапам-суфраганам Пінскае епархіі.

Нованазначаны Япіскап Кароль Неміра паходзіць з акраіннае сям'і з Украіны, радзіўся ў Варшаве 28 кастрычніка 1882 г. Маючы 2 гады страціў бацькоў і, як сірата, выхоўваўся ў закладзе пад кіраўніцтвам манашак. Скончыўшы школу, прыняты быў у духоўную сэмінарыю ў 1904 г., а пасьля сканчэньня яе выехаў дзеля далейшае адукацыі ў Рым, дзе адбыў студыі ў Грыгорыянскім Унівэрсытэце, атрымаўшы дыплём доктара кананічнага права. Вярнуўшыся да краю, ў 1911 г. быў высьвячаны і назначаны вікарыем у Лодзь. У 1912 г. а. Неміра быў пераведзены ў варшаўскую катэдральную парафію, уваходзячы ў Калегіюм А. А.

Вікарыяў, а таксама назначаны быў абаронцаю Таінства браку пры Архіяпіскапскім Судзе. У 1917 г. а. Неміра назначаны быў ганаровым канонікам. У 1919 г. дэкрэтам Палявога Япіскапа назначаны на пасаду капэляна польскага войска. У 1920 г. а. Неміра назначаны быў пробашчам катэдры; у 1925 г. Міністэрства Веравызнаньняў і Асьветы назначыла яго візытатарам навукі рэлігіі ў прафэсіянальных школах м. Варшавы. У 1926 г. а. Неміра выбраны радным сталічнага места Варшавы і абавязкі гэтыя спаўняе да апошняга часу, бяручы удзел у шмат якіх камісіях. У 1929 г. пераведзены на пробашча парафіі сьв. Аўгустына, дзе і быў дасюль. Апрача таго а. Неміра выкладаў у гімназіі Поразінскае, у настаўніцкай Сэмінарыі імя Конарскага і ў пачатковай школе № 111. Нованазначаны Япіскап добра вядомы ў Варшаве, як спакойны, няўтомны працаўнік на грамадзкай і дабрадзейнай ніве. У часе вайны быў сябрам грамадзкага камітэту, ладзіў сталоўкі і чайныя для бедных і дзяцей. Ужо шмат гадоў ёсьць сябрам Управы Варшаўскага Дабрадзейнага Таварыства, выдатна памагаючы бедным, а асабліва бяздомным старцам. Як душпастыра, яго вельмі любяць парафіяне, якія цэняць у ім стараньне і любоў да людзей.

Яго Пр. Япіскап Букраба і Пінская епархія набывае ў новым Япіскапе-Суфрагане пастыра, усёю душою аддanага думцы Божай і цалкам аддаўшага сябе на служэньне Богу і бліжнім.

**3. Нью-Іорк (КАП). Статыстыка Каталіцкае Царквы ў Злучаных Штатах за 1932 г.** Паводле апошняга гадавога сьпісу лік каталікоў у Паўночна-Амэрыканскіх Злучаных Штатах павялічыўся ў 1932 г. на 32.012 і раўняецца цяпер 20.268.403. Каталікі Злучаных Штатаў падлягаюць 16-ём архіяпіскапам і 102-ом япіскапам. Сярод архіяпіскапаў ёсьць чатыры кардыналы. Лік духавенства раўняецца 29. 782, у гэтым 8.766 манахаў; цэркваў каталіцкіх ёсьць 18.260. Сэмінарыяў духоўных пабольшала на 9 і цяпер ёсьць іх 181; у гэтых сэмінарыях вучыцца 20.993 вучні. У каталіцкіх школах вучыцца 158.152 вучняў і студэнтаў.

**4. Citta del Vaticano (КАП). Працэсія Божага Цела ў Рыме.** Працэсія Божага Цела на пляцы сьв. Пётры адбылася 15.VI. ўвечары з традыцыйнаю ад 1870 г. нявіданаю ўрачыстасьцю. Сьв. Тайны нёс Сьв. Айцец на г. зв. „talamo.“ У працэсіі ўзялі удзел ордэны, вучні духоўных рымскіх калегіяў, Рымскія пробашчы, капітулы базылікаў, 16 кардыналаў і 40 япіскапаў. Працэсія прайшла вакол пляцу пад прапышнаю калённадаю Бэрніні і скончылася перад базылікаю багаслаўленьнем Сьв. Тайнамі Айца Сьв. з аўтара, пастаўленага пры ўваходзе ў Базыліку і ўпрыгожанага най-

лепшым абразом Тайнае Вячэры Леанардага да-Вінчы. Сьпеў гымну „Хрыстос перамагае“ закончыў урачыстасьць. Увесь пляц перад Базылікаю запаўнялі вялізарныя натаўпы верных у ліку каля 200 тысяч чалавек. У лёжах Ватыканскага палацу мясьціўся дыплёматычны корпус, а таксама шмат выдатных асобаў з палітычнага сьвету. Цудоўны быў від на базыліку, асьветленую рэфлектарамі, і на пляц, дзе зіхацелі агоньчыкі тысячаў сьвечак.

**5. Разьвіцьцё Каталіцкае Царквы за понтыфікату Піуса XI.** За понтыфікату Піуса XI царкоўная арганізацыя вялізарна разбудавалася. Аб разьмерах гэтага павялічэньня сьведчаць гэткія лічбы: прыбыло 75 апостальскіх прэфэктураў, 62 апостальскія вікарыяты, 7 апостальскіх адміністратураў, 68 япіскапстваў, 23 архіяпіскапствы, 9 апостальскіх дэлегатураў, 23 місіі і місійныя акругі, 1 апостальская візытатура ў Польшчы для Славян візантыйскага абраду. („Ryc. Niepokal.“).

**6. Першы Эўхарыстычны Кангрэс у Цэнтральнай Афрыцы.** 15 жніўня сёл. году адбудзецца ў Кісанту (бэльгійскае Конго) першы Эўхарыстычны Кангрэс Цэнтральнай Афрыкі. Прадбачыцца вельмі людны зьезд тубыльчага духавенства і верных з усяго бэльгійскага Конга. („Ryc. Niepok.“).



# Календар

на м—ц Ліпень, 1933 г.

**Стары стыль.** — **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | П | Кузьмы і Дзям. | 14 | P | Bonawentury |
| 2 | С | Пал. рызы Пр. Баг. | 15 | S | Razasłańnia św. ap. |
| 3 | Н | **Яцэнта** | 16 | N | **M. Božaj Škapl.** |
| 4 | П | Андрэя | 17 | P | Alaksieja |
| 5 | А | Кірылы і Мяфода | 18 | A | Symona L. |
| 6 | С | Апанаса | 19 | S | Wincentaha z Paulo |
| 7 | Ч | Тадэуша | 20 | Č | Česława. Amiljana |
| 8 | П | Пракопа | 21 | P | Praksedy |
| 9 | С | Панкрата | 22 | S | Maryi i Mahdaleny. |
| 10 | Н | **Антонія Пячэрск.** | 23 | N | **Apolinara** |
| 11 | П | Вольгі кн. | 24 | P | Krystyny |
| 12 | А | Прокла і Гіляра | 25 | A | Jakuba |
| 13 | С | Гаўрылы арх. | 26 | S | Hanny Matki NDZ. |
| 14 | Ч | Акілы | 27 | Č | Natali |
| 15 | П | Уладзімера | 28 | P | Wiktara. Inacenta |
| 16 | С | Афінагена | 29 | S | Marty |
| 17 | Н | **Марыны** | 30 | N | **Aldony** |
| 18 | П | Амільяна | 31 | P | Ihnata Ł. |
| | | | | | ŽNIWIEŃ |
| 19 | А | Макрыны | 1 | A | Piotry ŭ Akowach |
| 20 | С | Ільі | 2 | S | N. Dz. M. Anielsk |
| 21 | Ч | Сымона | 3 | Č | Pier. cieła św. Ściap. |
| 22 | П | Мар. Магдалены | 4 | P | Damianika |
| 23 | С | Трахіма | 5 | S | M. B. Sniežnaj |
| 24 | Н | **Барыса і Глеба** | 6 | N | **Pieramianieńnia P. J.** |
| 25 | П | Ганны | 7 | P | Kajetana |
| 26 | А | Ермалая | 8 | A | Kiryjaka. Smarahda |
| 27 | С | Панцелеймона | 9 | S | Ramana |
| 28 | Ч | Прахора | 10 | Č | Łaŭryna |
| 29 | П | Калініка | 11 | P | Zuzanny |
| 30 | С | Сілы і Сілуана | 12 | S | Klary |
| 31 | Н | **Аўдакіма** | 13 | N | **Hipalita.** |

# Календар

на м—ц Жнівень 1933 г.

**Стары стыль** | **Новы стыль**

| Кал. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | П | Пад. сьв. Кр. | 14 | P | Eŭzebija |
| 2 | А | Пер. ц. с. Сьцяп. | 15 | A | **Uniebaŭziać. NDM.** |
| 3 | С | Ісака Дал. | 16 | S | Jakima. Rocha |
| 4 | Ч | 7 Сьв. Айцоў з Эф. | 17 | Č | Jacka |
| 5 | П | Аўсенія | 18 | P | Heleny |
| 6 | С | **Прэабраж. Гасп.** | 19 | S | Ludwika. Marjana |
| 7 | Н | **Дамацыя.** | 20 | N | **Bernarda** |
| 8 | П | Амільяна. | 21 | P | Joanna Fr. |
| 9 | А | Мацея | 22 | A | Cimachwieja |
| 10 | С | Лаўрына | 23 | S | Pilipa |
| 11 | Ч | Авілы | 24 | Č | Bautramieja |
| 12 | П | Фоція і Анікі | 25 | P | Ludwika |
| 13 | С | Максіма | 26 | S | M. B. Jasnahorskaj |
| 14 | Н | **Міхея** | 27 | N | **Jozafa Kalasan.** |
| 15 | П | **Усьп. Пр. Б.** | 28 | P | Aŭhusta |
| 16 | А | Пер. Абр. Гас. | 29 | A | Ściaćcie hał. J. Ch. |
| 17 | С | Мірона | 30 | S | Ružy Lim. |
| 18 | Ч | Хлора | 31 | Č | Rajmunda, Izabeli |
| | | | | | WIERASIEŃ |
| 19 | П | Андрэя | 1 | P | Branisławy |
| 20 | С | Самуіла | 2 | S | Stefana |
| 21 | Н | **Тадэуша ап.** | 3 | N | **Symona słupn.** |
| 22 | П | Агатоніка | 4 | P | Razali |
| 23 | А | Лупа. Калініка | 5 | A | Łaŭryna |
| 24 | С | Аўціхея | 6 | S | Zachara |
| 25 | Ч | Варфаламея | 7 | Č | Melchiora. Reginy |
| 26 | П | Адрыяна | 8 | P | Naradžeńnie N. D. M. |
| 27 | С | Пімана | 9 | S | Siarhieja |
| 28 | Н | **Аўгустына** | 10 | N | **Mikałaja z Toł.** |
| 29 | П | С. Г. С. Івана | 11 | P | Piotry i Jacka |
| 30 | А | Аляксандра | 12 | A | N. Im. M. Božaj. |
| 31 | С | Пал. паяса Пр. Дз. | 13 | S | Pilipa. Aŭhieni |

Рэдактар а. А. НЕМАНЦЭВІЧ.